**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 17 (838) 28 красавіка 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



ISSN 2077-8023






Зробім наш горад чыстым!
Фота Ул. Скрабатуна



## У першыя месяцы пасля дэнамінацыі ў Беларусі эксперты прагназуюць усплёск падробак

**У першыя месяцы пасля дэнамінацыі ў Беларусі эксперты прагназуюць усплёск нізкаякасных падробак. Аб гэтым сёння паведаміў журналістам намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Сяргей Яўмененка, перадае карэспандэнт БелТА.**

*"Усплёск так званых фанцікаў - падробак не вельмі высокай якасці - чакаецца незадоўга да дэнамінацыі і ў першыя месяцы пасля яе. Пакуль што фальшываманетчыкі бачаць новыя грошы толькі на малюнку, таму толькі праз нейкі час магчыма з'яўленне больш "якасных" падробак"*, - сказаў Сяргей Яўмененка.

Начальнік галоўнага ўпраўлення крыміналістычных экспертыз цэнтральнага апарату Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Беларусі Дзмітрый Гулідзін дадаў, што ступень аховы беларускіх грошай новага ўзору вельмі высокая, і адрозніць падробку пры ўважлівым разглядзе будзе адносна проста нават звычайнаму чалавеку. Дзмітрый Гулідзін звярнуў увагу, што пасля дэнамінацыі Беларусь абзавядзецца манетамі, вывучыць знешні выгляд якіх трэба было б асаблівa дасканала з-за таго, што спосабы аховы такога віду грошай грамадзянам малавядомыя.

***БелТА.***

**Лепельскі раён**

# Сцеражыся ... БТР

■ Станіслаў Раманчук.

**У паўсядзённым жыцці час ад часу здараюцца проста неверагодныя гісторыі.**

Вось і ў Лепельскім раёне ў былым буйным ваенным гарадку Заслонава сёлета таксама адбыліся досыць рэдкія здарэнні. Там ужо няма столькі воінскіх часцей, як за савецкім часам, але некалькі падраздзяленняў Міністэрства абароны Беларусі і ваенны палігон па-ранейшаму працягваюць дзейнічаць. Менавіта падчас вучэбных стрэльбаў адтуль напрыканцы зімы да мясцовай школы і воінскай казармы прыляцеў, упаў і разарваўся супрацьтанкавы снарад. На шчасце, цяжкіх наступстваў для людзей не было, некаторыя з іх толькі спужаліся не на жарт. А праз два месяцы мясцовыя ваенныя зноў патрапілі ў гісторыю, толькі ўжо з незвычайным ДТЗ. У выхадны дзень лёгкі браніраваны плаваючы шматмэтавы цягач МТ-ЛБ на поўнай хуткасці наляцеў і моцна пашкодзіў прыпаркаваную на ўскрайку палігона іншамарку. Жыхар Віцебска папрасіў у сваёй маці красовер Nissan Qashgai 2008 года выпуску, каб з’ездзіць правбедаць са знаёмымі хлопцамі іх сябру, які праходзіць тут воінскую службу. Салдата адпусцілі з часці і кампанія вырашыла адпачыць на пікніку на свежым паветры ў цудоўнае надвор’е. Пасля абеду браніраваная машына на хуткасці ўрэзалася ў легкавушку, у чым неўзабаве пераканалася прыехаўшая з абласнога цэнтра яе ўладальніца. Супрацоўнікі ДАІ не сталі аператыўна разбірацца ў гэтай незвычайнай аварыі, а ваенныя спачатку пагадзіліся кампенсаваць матэрыяльны ўрон. Праўда, потым яны ад гэтага адмовіліся і раяць пацярпелай праводзіць высвятленне адносін у судзе. Армейскае ведамства, падобна на тое, вырашыла абараняць гонар мундзіра і ў сваёй цэнтральнай ваеннай газеце параіла грамадзянскім горавадзіцелям не ездзіць па іх палігонах.

**Пастаўскі раён**

# І ў фармаце HD

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам і ў Беларусі сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі развіваюцца вельмі дынамічна і шпарка.**

У адрозненне ад іншых рэгіёнаў, жыхары Пастаўскага раёна ўжо восем гадоў маюць магчымасць штодзённа сачыць за бягучымі падзеямі паўсядзённага жыцця дзякуючы дзейнасці студыі мясцовага тэлебачання. У сярэдзіне красавіка яе калектыў справіў наваселле ў новым памяшканні паблізу Палаца Тызенгаўза і з дапамогай сувязістаў, падключыўшых найноўшую оптавалаконную лінію да тэлестудыі, пачаў рэгулярнае вяшчанне ў двух кабельных гарадскіх сетках ужо толькі ў лічбавым фармаце. Прычым, у адной з іх УП “Ультрасетка” перадачы пастаўчан сталі трансліравацца ў фармаце найвышэйшай якасці адлюстравання HD аднымі з першых у краіне. Карцінка паказу настолькі фантастычная, што ад сучаснага тэлевізара проста немагчыма адарвацца. Дарэчы, у лічбавым фармаце жыхары райцэнтра глядзяць зараз праграмы і абласнога тэлебачання, тэлерадыёкампаніі “Віцебск”, а ўсяго звыш 90 праграм. У раёне акрамя гэтага звыш 8 тысяч абанентаў папулярнай сеткі тэлебачання ZALA. Калектыў жа студыі тэлебачання “Пастаывы-ТБ” хоць і малады, але ўжо здолеў зарэкамендаваць сябе. Двойчы пастаўскіх тэлерадыёжурналістаў прызнавалі лепшымі на Віцебшчыне ў штогадовым конкурсе электронных СМІ вобласці на прэмію “Віцязь”. У дзвюх намінацыях пастаўчане ўваходзілі таксама ў лік пераможцаў Нацыянальнага тэлевізійнага конкурсу “Тэлевяршыня”. Адзін з іх знятых дакументальных фільмаў заваяваў дыплом 1-й ступені рэспубліканскага конкурсу “Крепка семья – крепка держава”.

**Полацкі раён**

# З поля не вярнуўся

■ Чэслаў Якубовіч.

**Штогод з наступленнем сапраўднага цяпла спецыялісты заклікаюць людзей не займацца паламісухойраслінасці, бо гэта небяспечна і вельмі шкодзіць прыродзе.**

У адзін з такіх сонечных дзён на тэрыторыі вобласці пажарным 14 разоў прыйшлося выязджаць на тушэнне небяспечных пажараў, бо полымя бушавала на плошчы амаль 24 гектара. Падобнае ўзгаранне ў вёсцы Сушына, што ў Полацкім раёне, увогуле прывяло да трагедыі, а 70-гадовы пенсіянер стаў першай ахвярай веснавых палаў у Беларусі. Яго абгарэлы труп выратавальнікі знайшлі пасярод пачарнелай зямлі ў паўсотні метраў ад бліжэйшай хаты. Прайшло некалькі дзён і падобнае здарэнне, на жаль, зноў паўтарылася. Толькі на гэты раз труп пасярод абгарэўшай расліннасці адшукалі познім вечарам зусім блізка з вёскай Сасновая Наспа, што ў Ліёзненскім раёне. Ахвярай чалавечай неасцярожнасці стала ўжо жанчына. У той вечар полымя паспела там спаліць невялікі зямельны ўчастак, выгарэла поўнасцю толькі каля ста сотак. Магчыма, загінуўшая хацела патушыць пажар самастойна, але не разлічыла свае сілы. У любым выпадку, як звычайна бывае, высвятліць прычыну ўзгарання будзе няпроста, а загінуўшых так недарэчна ўжо не вернеш. Між тым, пакуль не вырасце добра зялёная трава, такія веснавыя палы будуць яшчэ працягвацца, яны сталі звыклай, хоць і небяспечнай звычкай.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 28.04.16 | | | | Пятніца 29.04.16 | | | | Субота 30.04.16 | | | | Нядзеля 01.05.16 | | | | Пан. 02.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +8 | +15 | +9 | +4 | +8 | +14 | +9 | +4 | +8 | +14 | +8 | +6 | +8 | +10 | +7 | +4 | +8 | +13 |
| Ціск | 747 | 746 | 746 | 748 | 750 | 752 | 753 | 754 | 754 | 755 | 754 | 755 | 755 | 755 | 754 | 753 | 752 | 752 | 751 |
| Вецер м/сек | 3 Ю-В | 4 Ю-В | 4 Ю | 3 З | 1 С-З | 1 С-З | 3 С-З | 3 С | 1 С-В | 3 С | 5 С | 5 В | 2 С-В | 4 С-В | 4 С-В | 2 С-В | 1 С-З | 1 Ю-З | 4 С-З |
| Вільготнасць | 90 | 80 | 45 | 78 | 94 | 77 | 44 | 70 | 93 | 78 | 46 | 87 | 95 | 86 | 67 | 86 | 95 | 83 | 56 |

# Аб самым надзёным

## ПАТАВАЯ СІТУАЦЫЯ НА МАЗЕ – ЯК ЛЮСТЭРКА ІСНУЮЧЫХ ПРАБЛЕМ БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІКІ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Справа ў тым, што сам МАЗ стаў вельмі стратным і завяршыў мінулы 2015 год “мінусам” на 248 млрд. рублёў. Летась завод-гігант неаднаразова пераходзіў на скарочаны працоўны тыдзень, пакрыху скарачаў штаты, паколькі доля прадаж ягонай тэхнікі на асноўным рынку збыту ў Расіі знізілася з 15 да 5-6 %**

Як вядома, амаль год назад летась беларускі лідар паабяцаў пасля майскіх святаў асабіста наведаць і разабрацца ва ўзнікшых праблемах айчынных гігантаў індустрыі – на МАЗе, МТЗ і на Мінскім маторным заводзе. Глава дзяржавы сваё слова стрымаў, пабываў там, сустрэўся і пагутарыў з працоўным калектывам трактаразаводцаў, з кіруючымі кадрамі, даведаўся пра існуючыя праблемы са сбытам, узнікшыя прастої. Прэзідэнт тады папрасіў людзей трымацца за працоўныя месцы і не слухаць перад выбарамі розных балбатуноў. Непрыкметна праляцеў яшчэ адзін год, але, як па ўсяму бачна, сітуацыя на гэтых буйных заводах застаецца вельмі няпростай.

А на Мінскім аўтамабільным заводзе, які некалькі гадоў назад стаў упраўляючай кампаніяй холдынга “БелаўтаМАЗ”, эканамічны крызіс яшчэ і паглыбіўся. Нават галоўная газета краіны “СБ.Беларусь сегодня” напісала праўду, што там “посуровевшие рабочие хмурились”. Праўда, людзі болей маўчалі, бо за рэзкае выказванне лёгка потым можна вылецець з работы, пазбавіцца працы па меры заканчэння працоўнага кантракту. Аднак вытворцам больш чым паўтысячы мадэляў розных нашых грузавых цягачоў, самазвалаў, лесавозаў, іншых грузавікоў, пасажырскіх, турыстычных і спецыяльных аўтобусаў зараз жывецца складана.

Справа ў тым, што сам МАЗ стаў вельмі стратным і завяршыў мінулы 2015 год з “мінусам” на 248 млрд. рублёў. Летась завод-гігант неаднаразова пераходзіў на скарочаны працоўны тыдзень, пакрыху скарачаў штаты, паколькі доля прадаж ягонай тэхнікі на асноўным рынку збыту ў Расіі знізілася з 15 да 5-6 % . На стварэнне ў рамках Саюзнай дзяржавы агульнага холдынга “Росбелаўта”, праўда, на больш выгадных для суседзяў умовах наша краіна не пайшла, аб’яднання з КАМАЗам не адбылося. У выніку за адзін мінулы год беларусы зменшылі аб’ёмы прадаж тэхнікі МАЗа на расійскім рынку на 54 %.

Таму невыпадкова, што тэрмін наведвання беларускім лідарам гэтага прадпрыемства некалькі разоў адкладваўся і пераносіўся. Абстаноўка трывожная і на іншых заводах беларускага машынабудавання, у іх партнёраў-смежнікаў з глыбінкі. У мінулым годзе падзенне прамысловай вытворчасці ў гэтай галіне склала па краіне 6,6 %. Сёлета такое скарачэнне працягваецца і транспартных сродкаў і абсталявання ў студзені-лютым вырабілі 91,8 % да адпаведнага леташняга ўзроўню. Каб не дапамога дзяржавы ў 2015 годзе, то МАЗ увогуле б спыніўся надоўга, бо ў яго не было абаротных сродкаў з-за затаварвання непрадаедзенай прадукцыяй.

Аднак і перад візітам сюды высокага госця гэты аўтазавод працаваў толькі 4 дні на тыдзень, у суткі выпускалі з канвеера 20 машын. На кароткі тэрмін перавялі калектыў на поўны працоўны тыдзень, але А. Лукашэнка паехаў адсюль і графікі працы вярнуліся на ранейшы рэжым, з заработнай ведамасці па-ранейшаму выпадае 4-5 дзён за месяц. Што характэрна, кіраўнік дзяржавы не стаў праводзіць там запланаваную нараду па перспектывах развіцця машынабудавання ў Беларусі. Ён амаль 5 гадзін знаёміўся з прадсталенымі ўзорамі айчыннай тэхнікі, слухаў тлумачэнні дырэктараў заводаў. Праз некаторы час размова на гэту тэму будзе прадоўжана пасля дэталёвага аналізу інфармацыі аб рэальным становішчы спраў.

А вось адно даручэнне кіраўнік краіны зрабіў і загадаў кіруючым работнікам ад главаў раёнаў да міністраў перасесці на кітайскія легкавушкі беларускай зборкі. Галоўную ж заяву А. Лукашэнка зрабіў там, што любой цаной неабходна захаваць прадпрыемства МАЗ і іншыя заводы, асабліва Мінскі мотавелазавод, “который сегодня кувыркается”. Там на МАЗе глава дзяржавы сказаў вельмі красамоўна: “если мы угробим такие производства – ну тогда возьмём лопаты и будем копать землю, если нас в сельское хозяйство возьмут, там тоже сейчас лишние руки никому не нужны». Іншая справа, што гэта задача стала вельмі няпростай. Ды і якім чынам далей перажывём цяжкія часы, яшчэ вялікае пытанне, як і тое, калі пачнём нарэшце выходзіць з крызісу?

У нас зараз, сапраўды, галоўная праблема – нерэфармаваная эканоміка, а працы напераздзе – непачаты край. Крыху абнадзеіла, што ўпраўленцы рукі не апускаюць і падчас гэтай паездкі быццам дамовіліся аб стварэнні ў сталіцы новай агульнай для шэрагу заводаў ліцейнай вытворчасці, пашырэнні выпуску кранавай тэхнікі і машын на газе, аўтацыстэрн і электрааўтамабіляў, якія пачалі распрацоўваць канструктары на МАЗе. Пакуль жа ў нашай дзяржавы са свабоднымі рэсурсамі зараз цяжка, то мінскія аўтазаводцы атрымаюць новыя крэдыты, кітайскія толькі пад гарантыю збыту сваёй прадукцыі. Вось з апошнім чамусьці цяпер загвоздка ў многіх беларускіх вытворцаў, а выпускаць канкурэтназдольныя якасныя тавары і прадаваць іх у свеце Беларусь яшчэ слаба ўмее.

## Дзень за днём

**Урад Беларусі даў банкам гарантыі пагашэння крэдытаў для разлікаў за ўраджай 2016 года. Дэкрэт аб "дармаедах" у Беларусі можа быць зменены. А. Лукашэнка прызнаў, што больш усяго наркотыкаў беларусам паступае з Расіі. За два апошнія гады ад іх перадазіроўкі памерла 80 беларусаў. Беларускія магазіны пачалі прывучаць пакупнікоў да новых цэнаў. Эксперты рэйтынгавага агенцтва S&P пацвердзілі Беларусі эканамічны спад і ў 2016 годзе. Перапіс насельніцтва ў Беларусі ў 2019 годзе будзе праводзіцца 3 дні і на стацыянарных участках.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Пракуратура правяла спецаперацыю і затрымала галоўнага арганізатара тэрактаў у Парыжы і Брюселі Мухамеда Абрыні, якога двойчы зафіксавалі камеры відэаназірання.

**Егіпет.** Прэзідэнт А. Ас-Сісі заключыў пагадненне з каралём Саўдаўскай Аравіі С. Аль Саўдам аб будаўніцтве маста паміж дзвюма краінамі праз Чырвонае мора.

**Расія.** ААТ "Газпрам" адмовіўся зніжаць цану на газ для Беларусі, бо беларусы раней не пагадзіліся на формулу цэнаўтварэння, прывязаную да нафтавых каэфіцыентаў.

**Украіна**. На тэрыторыю акупіраванага Данбаса Расія даставіла зноў у Ілавайск і Харцызск эшалонамі танкі, іншае ўзбраенне і ваенную тэхніку, боепрыпасы, інфармацыю мае АБСЕ.

**Бельгія.** Еўракамісія прапанавала краінам-членам ЕС адмяніць візы для Украіны, бо яна выканала ўсе ўмовы, а рэферэндум у Галандыі меў толькі кансультацыйны характар.

**Расія.** Дырэктар Інстытута сацаналізу і прагназавання Т. Малева паведаміла аб рэзкім пагаршэнні сітуацыі ў РФ, дзе з 2013 года падвоілася колькасць беднякоў (іх ужо 25 %).

**Карэя.** Кампанія Samsung запатэнтавала свае новыя кантактныя лінзы з убудаваным дысплеем, камерай і датчыкамі, якімі можна кіраваць з дапамогай мігання вачэй.

**Фінляндыя.** На тыдзень спынілі працу аднаго з двух рэактараў фінскай АЭС "Олкілуота" пасля выяўлення ўцечкі радыяцыі ў актыўнай зоне, але пагроза для персаналу не было.

**Тайланд.** Урад краіны ў якасці пакарання вадзіцеляў, якіх затрымалі п'янымі за рулём, вырашыў адпраўляць іх для перавыхавання на абавязковыя грамадскія работы ў моргі.

**Украіна.** Нобелеўскі лаўрэат С. Алексіевіч у Кіеве, дзе выйшлі тры яе кнігі на ўкраінскай мове, заявіла, што ў сучаснай Расіі можа быць фашызм, глебу для яго там рыхтуюць.

**Таджыкістан.** Пасольства краіны ў РФ узяло пад асаблівы кантроль крымінальную справу 59-гадовага масквіча, які ў вагоне метро стрэліў у галаву таджыка.

**Расія.** Фонд "Адкрытая Расія" апублікаваў відэазапіс тайных вучэнняў ля Люберцаў створаных Пуціным войск Нацгвардыі для падаўлення масавых акцый пратэсту.

**Індыя.** Больш 100 чалавек загінулі ў выніку ўзнікшага пажара па неасцярожнасці ў індуісцкім храме штата Керала, моцныя апёкі цела атрымалі яшчэ каля 200 прыхаджан.

**Польшча.** У Варшаве і іншых гарадах прайшлі акцыі пратэсту супраць рашэння ўрада забараніць аборты ў 39-мільённай краіне, іх дазволяць толькі пры пагрозе жыццю маці.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск прыняў запрашэнне ў канцы чэрвеня наведаць зноў Арменію, а восенню – Грузію і Азербайджан, пра візіт у Беларусь пакуль адны размовы.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пра гэта сумна казаць, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, але трагедыя Беларусі ў тым, што яе прамысловасць паміраe, але невядома, што ідзе на змену савецкай эпохі.

**Светлагорск.** Першы віцэ-прэм'ер урада Беларусі В. Мацюшэўскі на нарадзе папярэдзіў, што неэфектыўныя прадпрыемствы краіны альбо цэхі непазбежна будуць закрывацца.

**Брэст.** Следчы камітэт пачаў разбірацца па фактах махінацый з 49 зямельнымі ўчасткамі ў абласным цэнтры, распачата адразу 17 падобных крымінальных спраў.

**Мінск.** Вядомы філосаф Уладзімір Мацкевіч публічна запытаўся ў главы МУС Беларусі І. Шуневіча, ці не страшна яму жыць у краіне, дзе міліцыю прымушаюць маніць у судзе.

**Бабруйск.** Глава МЗС Беларусі Уладзімір Макей пацвердзіў, што на дадзеным этапе пытанне размяшчэння ў горадзе расійскай ваеннай ударнай авіябазы закрыта.

**Мінск.** У самы разгар крызісу Міністэрства па падатках і зборах РБ аб'явіла аб закупцы 8 новых мікрааўтобусаў на 3,3 млрд. рублёў (коштам кожнага звыш 25 тысяч еўра).

**Рэчыца.** Падчас начнога пажару на ферме ў вёсцы Гасцівель супрацоўнікі райаддзела МНС разам з яе работнікамі эвакуіравалі 192 каровы, кароўнік застаўся без даху.

**Раўбічы.** Знакаміты біятланіст У. Б'орндален пацвердзіў, што ў іх дзіця з Д. Домрачавай да 18 гадоў будуць два грамадзянствы – нарвежскае і беларускае, а далей – пабачым.

**Курапаты.** У рамках афіцыйнага візіту ўпаўнаважаная ўрада Польшчы, дачка знакамітага генерала У. Андэрса Анна-Марыя ўсклала кветкі да магіл ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

**Мінск.** Толькі ў малой зале Палаца Рэспублікі выступіла пісьменніца, нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч на ўрачыстай прэзентацыі кнігі "Алексіевіч на Свабодзе".

**Гомель.** З-за неадэкватных паводзін на сцэне ў горадзе быў сарваны канцэрт расійскай зоркі эстрады Ірыны Дубцовай, спявачка выйшла выступаць, верагодна, проста п'янай.

**Мінск.** Вядомы журналіст, экс-генменеджар ХК "Дынама" Уладзімір Беражкоў пасля выхаду з СІЗА заявіў, што дакладна нікому са сваіх ворагаў не будзе помсціць.

**Магілёў.** На тэрыторыі вобласці ўраганны навальнічны вецер парывамі 15-18 м/с знёс поўнасцю дахі адразу некалькіх вытворчых пабудоў, складоў сена, фермы.

**Рагачоў.** Падчас адпачынку на выхадны на беразе ракі Друць двое хлопцаў з маладой кампаніі рашылі адкрыць ранні купальны сезон, у выніку адзін з іх патануў.

**Пружаны.** Дзікія кабаны вырылі ў Белавежскай пушчы асколачную гранату РГ-42 часоў вайны, якую выпадкова знайшлі падчас лесанарыхтоўчых работ у Нікарскім лясніцтве.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# У Беларусі вызначаны парадак прыёму на альтэрнатыўную службу і ўмовы яе праходжання



■ БелТА

**У Беларусі вызначаны парадак прыёму на альтэрнатыўную службу і ўмовы яе праходжання. Адпаведнае рашэнне змешчана ў пастанове Савета Міністраў ад 18 красавіка 2016 года № 312, паведамілі ў прэс-службе ўрада.**

Праходзячы альтэрнатыўную службу, грамадзяне будуць выконваць работы ў арганізацыях аховы здароўя, жыллёва-камунальнай, лясной і сельскай гаспадаркі, сацыяльнай сферы, арганізацыях, якія займаюцца добраўпарадкаваннем тэрыторый. Яны таксама будуць прыцягвацца да рамонту чыгуначных пуцей і аўтадарог. Акрамя таго, ім можна будзе працаваць у органах і падраздзяленнях МНС.

Час праходжання грамадзянамі альтэрнатыўнай службы залічваецца ў стаж працы.

Прадугледжана, што Міністэрства працы і сацыяльнай абароны ўстанаўлівае пералік арганізацый, у якіх грамадзяне праходзяць альтэрнатыўную службу, а таксама формы прадпісання для праходжання альтэрнатыўнай службы, пасведчанні і форму ўліковай карткі грамадзяніна, які праходзіць такую службу.

Пастанова таксама замацоўвае парадак і ўмовы прадастаўлення грамадзянам, звольненым з альтэрнатыўнай службы, першага працоўнага месца.

Акрамя таго, вызначаны парадак правядзення ваенна-ўрачэбнай экспертызы. Правамоцтвы праводзіць яе для вызначэння катэгорыі годнасці грамадзян прадастаўлены ваенна-ўрачэбным камісіям.

Вызначаны агульныя палажэнні арганізацыі і правядзення медыцынскага агляду грамадзян, якія праходзяць альтэрнатыўную службу. Устаноўлена, што такі агляд праводзіцца па накіраванні органа па працы, занятасці і сацыяльнай абароне па месцы знаходжання арганізацыі, у якой грамадзянін будзе служыць.

Парадак накіравання на медыцынскі агляд, формы дакументаў, неабходных для накіравання, і парадак іх афармлення ўстанаўліваюцца Мінпрацы і сацабароны сумесна з Міністэрствам аховы здароўя па ўзгадненні з Мінабароны.

Арганізацыя правядзення медыцынскага агляду грамадзян ускладаецца на ваеннага камісара (кіраўніка адасобленага падраздзялення ваеннага камісарыята) раёна (горада) па месцы праходжання грамадзянінам службы. Медыцынскі агляд праводзяць дактары-спецыялісты, уключаныя ў склад лякарскіх камісій з правамі ваенна-ўрачэбных камісій ваенных камісарыятаў (адасобленых падраздзяленняў ваенных камісарыятаў) раёнаў (гарадоў): доктар-хірург, доктар-тэрапеўт, доктар-неўролаг, доктар-афтальмолаг, доктар-отарынаіарынголаг і пры неабходнасці — дактары іншых спецыяльнасцей.

Для ўдакладнення дыягназу грамадзянін, можа быць накіраваны ў дзяржаўную арганізацыю аховы здароўя на медыцынскае абследаванне ў амбулаторных або стацыянарных умовах. Патрабаванні да стану здароўя аналагічныя патрабаванням, што прад'яўляюцца ў адносінах да грамадзян, якія праходзяць тэрміновую ваенную службу і службу ў рэзерве.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Па дзяржаўнай праграме развіцця айчыннай энергасістэмы на мясцовай ТЭЦ запусцілі новую тандэмную турбіну "Siemens", у 2 разы больш магутную за папярэднюю.

**Віцебск.** Мясцовы мясакамбінат стаў лаўрэатам прэміі ўрада Беларусі за дасягненні ў галіне якасці за 2015 год, хоць ён меў летась за 3 кварталы 13,5 мільярда рублёў страт.

**Мёры.** Прадстаўнічая дэлегацыя бізнесменаў з Германіі, вытворцаў ліній для печаў наведала раён, каб на месцы вывучыць сітуацыю з узвядзеннем завода металічнай бляхі.

**Верхнядзвінск.** У рамках падрыхтоўкі да 630-годдзя райцэнтра ўслед за адкрытай новай кафейняй у горадзе адрамантавалі будынак Загса, будзе ўстаноўлены і памятны знак.

**Руба.** З-за будаўніцтва Віцебскай ГЭС пад знос сярод 100 іншых дач патрапіў і загарадны домік народнага артыста СССР Ф. Шмакава, іх уласнікі нясуць значныя грашовыя страты.

**Докшыцы.** Раённы суд пакараў 12,6 мільёнаў рублёў штрафу на карысць дзяржавы 25-гадовага жыхара вёскі Беразіно за ўхіленне ад мерапрыемстваў воінскага прызыву.

**Лепель.** Мясцовы лясгас па дагавору адгрузіў 150 тон бярозавага соку Мінскаму заводу безалкагольных напояў, яшчэ 3 лясніцтвы адпускалі бярозавік для насельніцтва.

**Віцебск.** Па рашэнні дэпутатаў гарсавета ў абласным цэнтры з'явілася вуліца імя Марка Шагала, у гэтым месцы ён кіраваў былым народным мастацкім вучылішчам.

**Браслаў.** У мясцовым аб'яднанні музеяў упершыню прайшоў міжнародны дыспут "Музей і грамадства: кропкі сутыкнення" з удзелам калег з Краславы (Латвія), Полацка, Міёр.

**Глыбокае.** Падчас сусветнай акцыі "Зробім" валанцёры, жыхары раёна навялі парадак на берагах возера Вялікае і рэк Бярозаўка і Мнюта, якую ачысцілі і ў Шаркаўшчыне.

**Варапаева.** Падчас тыдня лесу ў мясцовым лясніцтве ўпершыню на Пастаўшчыне правялі пасадкі саджанцаў ёлкі і бярозы з закрытай каранёвай сістэмай па фінскай тэхналогіі.

**Віцебск.** Пасля прэм'еры фільма "Граф у апельсінах" маладога кінарэжысёра В. Сяньковай мясцовы кінавідэапракат выслаў ёй рахунак на 928 тыс. рублёў … за кветкі.

**Верхнядзвінск.** Фонды мясцовага гісторыка-краязнаўчага музея папоўніў унікальны экспанат часоў ІІ Сусветнай вайны, нямецкі медальён за раненне 1939 года.

**Наваполацк.** Мясцовы вакальны ансамбль "Лаўрыта" атрымаў Гран-пры ХХІІ абласнога конкурсу маладых выканаўцаў "Песні юнацтва нашых бацькоў", які прайшоў у Оршы.

**Віцебск.** Пісьменніку Францу Сіўко ўручылі ў абласным цэнтры літаратурную прэмію "Гліняны Вялес" за ягоную лепшую кнігу года на беларускай мове "Плебейскія гульні".

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Глыбокае: учора і сёння

# Горад, перадусім, не набор хаатычных будынкаў, але – гісторыя, культура, традыцыі...



**Савецкія танкі праходзяць па вуліцы вызваленага горада Глыбокае. Плошча 17 Верасня.** Фота Д. Сарокі. Дата здымкі: 11.07.1944 г.




**Той самы ракурс. Красавік 2016-га. Другі паверх будынка (гл. здымак злева) скасавалі, але сцены крыху паднялі ўверх, сам будынак пашырылі ў левы бок.** Фота Ул. Скрабатуна.

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Часта вельмі цікава, а нават карысна, пераглядаць здымкі Глыбокага розных эпох, якія знятыя з аднаго і таго самага ракурсу.**

На левым здымку – цяперашняя плошча 17 Верасня. Здымак зроблены цягам 8 дзён пасля вызвалення Глыбокага ад нямецкіх акупантаў. Праз Глыбокае ўсё яшчэ праходзяць савецкія танкі – на захад. На дальнім плане зацікавіў будынак, у якім сёння фірмовая крама "Віцязь". Будынак як будынак? Не, не зусім так! Яўна праглядаецца, што ён узведзены ў стылі канструктывізму[1]. Аб гэтым сведчыць кампазіцыя будынка. Нібыта, маецца і балкон? А мо проста шыльда над ўваходам? Што цікавага? Цікава тое, што правей яго знаходзіцца цяперашняя 2-павярховая кантора збанкрутаванага кансервавага завода, таксама ўзведзеная ў 1938-м г у стылі канструктывізму. Тады – Камунальная Ашчадная Каса. Гэта значыць, што ў 1930-я гг паўднёвая частка плошчы 3 Траўня (цяпер 17 Верасня) была афармленая ў стылі канструктывізму. Па ўсёй логіцы, калі б у нас была пераемнасць традыцый ад пакалення да пакалення, ад улады да ўлады, то цяпер, па лініі ад пастарунка паліцыі (сёння міліцыі) і да маста праз Беразвіцу, усе будынкі, як раней, так і пазней (пры савецкай уладзе) узведеныя, мусілі б складаць адзіны ансамбль пабудоў у стылі канструктывізму. А ўсё гэта разам з касцёлам святой Тройцы і саборам Нараджэння Багародзіцы было б сёння цікавосткай для турыстаў.

Ёсць, што сказаць, а хто будзе слухаць!

Пасля вайны ў Глыбокім кіравалі выхадцы з глыбіннай Расіі, бо нашым – заходнікам – мала давяралі. А гэтым прыхадням з усходу – што готыка, што барока, што канструктывізм – "излишества в архитектуре"! Тым больш, пры паляках будавана! Ім любая калгасная ферма – шэдэўр архітэктуры.

У Глыбокім, тым не менш, ёсць два ўдалыя прыклады перабудовы гістарычных альбо старадаўніх будынкаў. Яскравы прыклад – касцёл Святой Тройцы, у якім, у часе перабудовы 1902-10 гг, вежы ўзраслі на два дадатковыя ярусы, а сам храм пашыраны на два бакавыя нефы і ён, урэшце, набыў рысы стылю віленскага барока. Ніхто цяпер не адважыцца сказаць, што гэтай перабудовай "спаскудзілі" выгляд храма! Наадварот, скажуць: пекна! І турысты ў захапленні! Другі ўдалы прыклад перабудовы, які адбыўся ўжо на нашых вачах – перабудова альбо рэканструкцыя Гарадскога дома культуры на вул. Камуністычнай. Справа прыбудавалі новую залу, якая, як і пераход з будынка ў будынак, стылёва падобныя на стары будынак. Аўтар некалькі разоў паказваў гасцям горада гэты аб'ект, нават людзям з архітэктурнай адукацыяй, і ўсе рэзюмавалі: "Як здорава! Малайцы! Як сто гадоў стаіць! Сапраўды, ансамбль!"

Дапускаю толькі адну думку: некалі, усё ж, на Беларусі – бо нічога няма вечнага – гэтая ўлада зменіцца і пытанне рэгенерацыі плошчы 17 Верасня (мо і з іншым ужо назовам) у Глыбокім паўстане з новай актуальнасцю.

1. Канструктывізм — авангардысцкі кірунак у выяўленчым мастацтве, архітэктуры, фатаграфіі і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, які зарадзіўся ў 1920 - першай палове 1930 гадоў у СССР, Еўропе і Амерыцы.

Характарызуецца строгасцю, геаметрызмам, лаканічнасцю формаў і маналітнасцю вонкавага аблічча.

У Беларусі яскравымі прыкладамі будынкаў у стылі канструктызму з'яўляюцца – Дом ураду, Дом афіцэраў, Оперны тэатр і Акадэмія навук у Мінску.

## Названы чатыры беларускія «гарады жаніхоў»

**Белстат апублікаваў дадзеныя аб структуры насельніцтва па ўзросце і полу.**

У Беларусі налічваецца ўсяго чатыры гарады, дзе колькасць мужчын перавышае колькасць жанчын.

| Горад | Мужчыны | Жанчыны | Доля мужчын |
|---|---|---|---|
| Клічаў | 4055 | 3368 | 54,6% |
| Івацэвічы | 12462 | 10818 | 53,5% |
| Шклоў | 8628 | 7797 | 52,5% |
| Горкі | 17393 | 16437 | 51,4% |

Адметна, што Івацэвічы, Шклоў і Горкі — месцы выпраўленчых калоній.

*Белстат.*

**Актуальна!**

## У Гомелі ад удару электрычным токам загінуў рыбак

**У Гомелі на беразе запоўненага вадой кар'ера па вуліцы Бельчанкі 24 красавіка загінуў мясцовы жыхар 1965 года нараджэння.**

Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава, мужчына лавіў рыбу і зачапіўся спінінгам за правады. Рыбак быў смяротна траўмаваны электратокам.




Побач з пацярпелым знайшлі фрагменты аплаўленага і абгарэлага вугляпластыкавага вудзільна.

Праверку па факце гібелі праводзіць Гомельскі гарадскі аддзел СК.

*БелаПАН.*

## Біскуп Алег Буткевіч асвяціў крыж пад будаўніцтва новага касцёла ў Паставах

**23 красавіка ў Паставах біскуп Віцебскі Алег Буткевіч асвяціў новы крыж на пляцы, дзе будзе ўзведзена святыня Езуса Міласэрнага. Ва ўрачыстай падзеі прынялі ўдзел жыхары Паставаў і духавенства.**

Звяртаючыся да прысутных, біскуп Алег Буткевіч адзначыў, што будаўніцтва новай святыні вельмі патрэбна, таму што яна будзе месцам сустрэчы людзей з Богам.

У кантэксце Юбілейнага Года Міласэрнасці, які перажывае зараз Касцёл, пастаянна нагадваючы людзям пра дзеянне Бога, багатага міласэрнасцю і ласкай, новая святыня атрымае тытул Езуса Міласэрнага.

Біскуп заахвоціў удзельнікаў урачыстай падзеі маліцца аб паўстанні новай святыні ў Паставах, бо для яе ўзвядзення патрэбна здзейсніць велізарную працу. Зараз у Паставах існуе адна каталіцкая святыня Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Антонія Падуанскага, дзе з 1994 г. служаць ксяндзы сэрцане.

Аб сваім рашэнні стварыць у Паставах новую парафію і пабудаваць новую святыню біскуп Віцебскі Алег Буткевіч паведаміў вернікам 16 сакавіка 2014 г. падчас святой Імшы ў пастаўскім касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Антонія Падуанскага.




## У Глыбокім мясцовым жыхарам прапануюць усталяваць імянныя вулічныя ліхтары

**Па ініцыятыве раённых уладаў у Глыбокім стартавала акцыя «Любі свой горад!»: гараджане могуць усталяваць у райцэнтры вулічныя ліхтары са сваімі імёнамі.**

У Глыбокім мясцовым жыхарам прапануюць усталяваць за свой рахунак вулічныя ліхтары

Для ўдзелу ў ёй неабходна за ўласныя сродкі набыць дэкаратыўны вулічны ліхтар, выраблены майстрамі прыватнага прадпрыемства «У ажуры». Памятныя таблічкі на ліхтарах доўгі час будуць нагадваць пра тое, хто зрабіў такі незвычайны падарунак гораду.

*– Упэўненая, што да акцыі далучыцца вялікая колькасць гараджан,* – кажа галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі райвыканкама Таццяна Працук.

*Дыяна Берніковіч - «Витебские вести».*

# Язэп Барадзюля – святар і патрыёт

**Святар Язэп Барадзюля (1893 – 1983) стаў легендай яшчэ пры жыцці. У памяці тагачасных навучэнцаў Рыжскай духоўнай семінарыі ён захаваўся як мудры, сівы старац. За сваю вернасць Богу і Беларусі ён чвэрць стагоддзя правёў у савецкіх турмах, лагерах і ссылках. Потым яшчэ дваццаць гадоў камуністычныя ўлады забаранялі яму служыць у касцёле. Магчымасць адпраўляць святую Імшу ён атрымаў толькі ў 1978 годзе, калі меў ужо 85 гадоў. На жаль, у Беларусі, якую ён так любіў, яму працаваць не дазволілі. Пяць гадоў айцец Язэп служыў у Рызе ў касцёле святога Альберта. Тут, у Рызе 23 верасня 1983 года закончыўся яго зямны шлях.**

■ **Зміцер Лупач**

У наш час імя легендарнага святара стала паступова забывацца. Таму лічу вартым коратка нагадаць пра жыццёвы шлях гэтага святара, які з 1919 па 1926 год працаваў ва Ушачах, Бешанковічах, Лепелі. На маю думку, імя Язэпа Барадзюлі вартае ўшанавання не толькі ў касцёле, але і ў грамадстве.

Будучы святар нарадзіўся 4 верасня 1893 года ў вёсцы Козікі, што ў сучасным Шумілінскім раёне. Яго прадзед быў родам з Грузіі, меў княжаскае паходжанне. Звалі яго Ніцэфар Барадзелі. Ён патрапіў у палон да расійскага генерала, які зрабіў яго сваім слугой. Потым генерал абмяняў яго ці то на пародзістага ганчака ці на замежную стрэльбу з панам Рэутам, які жыў непадалёк ад Полацка. Тут ён ажаніўся з прыгоннай беларускай дзяўчынай. Яго імя таксама пацярпела змены, на нашых землях ён стаў Нікіфарам Барадзюляй.



Касцёл ва Ушачах у пачатку XX стагоддзя. Тут пачынаў служэнне Язэп Барадзюля. *Фота radzima.org*



Касцёл ва Ушачах напрыканцы XX стагоддзя. *Фота radzima.org*

Маці Язэпа Барадзюлі выйшла замуж у 16 гадоў і першы яе сын Антось трагічна загінуў, меўшы толькі два гады ад нараджэння. Таму калі ў сям'і нарадзіўся Язэп, то яна прысвяціла яго апецы Маці Божай. У першыя ж дні яго жыцця маці занесла яго ў касцёл у мястэчку Ула і паклала перад алтаром Божай Маці, просячы ў яе дапамогі і заступніцтва.

Язэп Барадзюля вучыўся спачатку ў народнай школе, потым у Віцебскім гарадскім вучылішчы. У Віцебску працаваў перапісчыкам, сакратаром, справаводам у Віцебскім акруговым судзе. Адначасова рыхтаваўся да паступлення ў Магілёўскую рыма-каталіцкую семінарыю. Гэта семінарыя хоць і называлася Магілёўскай, але месцілася ў тагачаснай сталіцы Расійскай імперыі, у Санкт-Пецярбургу. На тэрыторыі Беларусі ў той час вышэйшых духоўных навучальных установаў не было.

Язэп паступіў у гэту семінарыю ў 1912 годзе і ў ліку лепшых закончыў яе ў 1917 годзе. Пасля яе заканчэння ён атрымаў накіраванне ў Пецярбургскую духоўную рыма-каталіцкую акадэмію, дзе прабыў да 1919 года. Што гэта былі за часы, думаю, чытачам не трэба нагадваць.

У 1919 годзе бальшавікі закрылі гэтую навучальную ўстанову, пасля Рыжскай мірнай дамовы яна была пераведзена ў Люблін як багаслоўскі факультэт Люблінскага ўніверсітэта.

У Язэпа Барадзюлі быў шанец паехаць у Польшчу і там застацца, але ён ім не скарыстаўся. Як пісаў у сваіх успамінах сам святар: *"Я, беларус, які не меў нікога знаёмага ў Польшчы, не паехаў заканчваць духоўную адукацыю, а прыняў прызначэнне ад Магілёўскага рыма-каталіцкага мітрапаліта ў Ленінградзе Эдуарда Ропа, які прызначыў мяне вікарыем у Полацк. Там я прабыў восем месяцаў і атрымаў новае прызначэнне – пробашчам трох касцёлаў: Камена-Губінскага, Бешанковіцкага і Ушацкага. Было гэта 4 снежня 1919 года. Службу я нёс да 29 снежня 1926 года."* Гэта былі страшныя часы, у Расіі ішла грамадзянская вайна, на нашых землях Савецкая дзяржава ваявала з адроджанай польскай дзяржавай. Землі Ушаччыны часта пераходзілі з рук у рукі. Касцёлы былі разрабаваныя і часткова разбураныя.

У 1920 годзе польскі афіцэр, адступаючы, прапанаваў айцу Язэпу пайсці разам з імі, бо заставацца было вельмі рызыкоўна. Але і на гэты раз святар адмовіўся пакідаць сваю радзіму. У гэтым жа годзе ён цяжка захварэў на тыф і ледзь не памёр.

Сем тыдняў ён праляжаў у Бешанковічах, тэмпература парой даходзіла да 41,5⁰. Лекаў амаль не было, тым не менш святару ўдалося выжыць. Лячыў яго чырвонаармейскі доктар Эрдман.

Пасля таго, як з Расіі з'ехаў біскуп Дзербінні, які афіцыйна прыязджаў з Рыма ў Маскву ў 1925 годзе для ўрэгулявання духоўных спраў Каталіцкага Касцёла ў Расіі, пачалася хваля арыштаў і рэпрэсій каталіцкага духавенства. Гэта хваля закранула і Язэпа Барадзюлю. Падрыхтоўку да яго арышту чэкісты вялі доўга. Спачатку да яго падаслалі правакатара пад выглядам польскага ксяндза. Айцец Язэп правакатара распазнаў і паведаміў чэкістам, каб больш яму такіх асоб не падсылалі. За сваю няўмелую працу той правакатар атрымаў пяць гадоў Салаўкоў, дзе яго ў 1928 годзе і сустрэў Барадзюля.

Пасля гэтага чэкісты сталі адносіцца да святара яшчэ больш варожа і ўсё ж змаглі яго арыштаваць у канцы 1926 года. Пакаранні супраць святара яны змусілі даць ягонага закрыстыяніна і арганіста. Варта адзначыць, што напрыканцы жыцця той усё ж пакаяўся і прыслаў святару ліст, у якім прасіў прабачэння.

Падчас следства з мэтай псіхалагічнага ціску святара вывезлі ў лес і прымусілі капаць сабе магілу. І толькі праз паўгадзіны гэта рашэнне было адменена. У 1927 годзе айцец Барадзюля атрымаў свой першы тэрмін – тры гады Салавецкіх лагераў.

Калі ён ужо ішоў па этапу, на віцебскім вакзале давялося яму сустрэцца з бацькам. Пазней Язэп Барадзюля так апісаў гэту сустрэчу: *"На вакзале ў Віцебску, калі нас грузілі ў сталыпінскі катаржны вагон, мяне прыйшоў праводзіць мой бацька. Было яму тады 60 гадоў. Я папрасіў дазволу ў начальніка канвою спаткацца з бацькам. Начальнік даў салдата з вінтоўкай, і я спаткаўся з бацькам... Ён не плакаў, не паказваў сваіх пакутаў і трымаўся бадзёра. Я таксама трымаўся бадзёра.*

*На развітанне бацька сказаў мне: "Там, куды цябе вязуць, сонца свеціць?" Адказваю: "Свеціць". – "А вада таксама ёсць?" Адказваю: "Ёсць!" – "Значыць, сонца свеціць, вада ёсць, а пайку хлеба, ведаю, даюць і катаржнікам. Але ты не катаржнік... Я ведаю: ты не вінаваты... Значыць, жыць можна!"*

Гэтыя бацькавы словы айцец Язэп успамінаў у самыя цяжкія часы, і яны дапамаглі яму выжыць.

Летам 1933 года Язэп Барадзюля атрымаў дакументы аб вызваленні і вярнуўся ў Беларусь. Ён быў прызначаны пробашчам у віцебскія касцёлы святога Антонія і святой Барбары, якія тады яшчэ дзейнічалі. Але праслужыў тут толькі два тыдні і зноў быў арыштаваны.

Далей зноў былі турмы і ссылкі, канчаткова айцу Язэпу ўдалося выйсці на свабоду толькі ў 1954 годзе. Ён атрымаў прызначэнне ў мястэчка Прыдруйск Браслаўскага дэканату. Зараз гэта Піедруя, знаходзіцца ў Латвіі. Тут ён актыўна пачынае адраджаць касцёл і рэлігійнае жыццё ў парафіі.

Але надыходзілі часы ваяўнічага атэізму. За сваю актыўнасць святару забаранілі ў 1958 годзе служыць у касцёлах. Гэта забарона дзейнічала аж да 1978 года.

Калі святару было ўжо 85 гадоў, яму дазволілі служыць Імшу. Праўда, у Беларусь ён не змог вярнуцца, апошнія гады жыцця працаваў у Рызе да сваёй смерці ў 1983 годзе.

24 красавіка гэтага года пасля святой Імшы ва ўшацкім касцёле гісторык Уладзімір Шыпіла распавёў парафіянам пра жыццёвы шлях Язэпа Барадзюлі, які працаваў тут у самыя няпростыя часы.

На маю думку, з цягам часу ў касцёле будзе ўсталявана памятная дошка ў гонар гэтага легендарнага святара.



Язэп Барадзюля.



Касцёл святога Лаўрэна ва Ушачах. Сучасны стан, адсутнічаюць дзве вежы. *Фота Змітра Лупача.*



# Фізіку цяпер будуць вучыць толькі з 7-га класа, а беларуская мова будзе даганяць рускую

**Новы тыпавы план для сістэмы агульнай сярэдняй адукацыі на 2016/2017 навучальны год зацверджаны пастановай Міністэрства адукацыі РБ ад 12 красавіка 2016 года. Як адзначыла прэс-сакратар Мінадукацыі Юлія Барадун, ён прадугледжвае некаторыя новаўвядзенні.**

У 2016/2017 навучальным годзе ў X-XI класах профільнае навучанне прадугледжвае вывучэнне асобных прадметаў на павышаным узроўні.

У сувязі з гэтым у тыпавым навучальным плане для навучэнцаў XI класаў (гэтак жа, як у 2015/2016 навучальным годзе для вучняў X класаў) прадугледжана розная колькасць гадзін для вывучэння прадметаў на базавым і павышаным узроўнях.

У Беларусі праходзіць паэтапны пераход на абноўленыя навучальныя праграмы па прадметах «Беларуская мова», «Руская мова», «Руская літаратура», «Беларуская літаратура». Яны прадугледжваюць паступовае ўвядзенне аднолькавай колькасці гадзін на гэтыя навучальныя прадметы ва ўсіх школах, гімназіях, ліцэях.

У гэтай сувязі з наступнага навучальнага года будзе выдзелена роўная колькасць гадзін на вывучэнне дадзеных прадметаў у II класах.

У адпаведнасці з пунктам 2.4 абноўленай Дырэктывы №1 «Аб мерах па ўмацаванні грамадскай бяспекі і дысцыпліны», зацверджанай указам прэзідэнта Беларусі ад 12 кастрычніка 2015 года №420, паэтапна ўводзіцца прадмет «Асновы бяспекі жыццядзейнасці». У 2016/2017 навучальным годзе дадзены навучальны прадмет будзе ўведзены для навучэнцаў II і VI класаў.

З пераліку навучальных прадметаў для вучняў VI класаў выключаны вучэбны прадмет «Фізіка» (вывучэнне дадзенага вучэбнага прадмета будзе пачынацца з VII класа).

З 2015/2016 навучальнага года ў V класах пачата вывучэнне вучэбнага прадмета «Мастацтва (айчынная і сусветная мастацкая культура)». Тыпавым навучальным планам на 2016/2017 навучальны год прадугледжана далейшае вывучэнне дадзенага прадмета навучэнцамі VI класаў.

Абноўленай праграмай у VI класе прадугледжана 2 гадзіны на вывучэнне «Працоўнага навучання» (у 2015/2016 навучальным годзе — 1 гадзіна).

*БелТА*

# Прафілактыка малярыі



**Пры выездзе ў замежныя краіны неабходна ведаць, што ў некаторых з іх існуе рэальная магчымасць заражэння інфекцыйнымі і паразітарнымі захворваннямі, якія характарызуюцца цяжкім клінічным працяканнем, паражэннем жыццёва важных органаў і сістэм арганізма, і могуць прывесці да смяротнага зыходу.**

■ **Лілія Барэйка**, *памочнік урача-паразітолага*

Адной з небяспечных хвароб чалавека з'яўляецца малярыя. У раёнах яе распаўсюджвання пражываюць 2,4 мільярда чалавек, або каля 30% насельніцтва свету. Штогод малярыяй заражаецца больш за 300 мільёнаў чалавек і больш за 1,5 мільёна памірае. Большасць выпадкаў малярыі рэгіструецца ў краінах Афрыкі. Малярыя сустракаецца таксама ў Індыі, Бразіліі, Шры-Ланцы, В'етнаме, Калумбіі, на Саламонавых Астравах, на ўзбярэжжы Чырвонага і Міжземнага мораў, на Балканах, у Азербайджане, Таджыкістане і Узбекістане. У Беларусі рэгіструюцца адзінкавыя выпадкі, галоўным чынам завезеныя з пералічаных краін і кантынентаў.

У 2015 годзе ў Віцебскай вобласці зарэгістравана два выпадкі малярыі (ў 2014 годзе – адзін).

Малярыя – інфекцыйнае захворванне, ўзбуджальнікам якога з'яўляюцца прасцейшыя (плазмодыі малярыі), якія перадаюцца ад хворага чалавека да здаровага праз укусы малярыйнай камароў.

Малярыйнай камары плодзяцца ў вадаёмах са застаялай або павольна цякучай вадой. Малярыйнай камароў ад іншых відаў візуальна можна адрозніць па пасадцы – брушка ў іх адхілена ад паверхні столі (сцены) пад вуглом прыблізна $45^0$. Нападаць яны на чалавека ўвечары, пасля заходу сонца і з самага ранку. Чалавек можа захварэць ўжо на другім тыдні знаходжання ў нядобранадзейным рэгіёне, а можа і праз 2 гады пасля вяртання адтуль.

Клініка малярыі адрозніваецца значнай разнастайнасцю. Найбольш характэрнымі яе прыкметамі з'яўляюцца ліхаманкавыя прыступы з кароткачасовымі дрыжыкамі, высокай тэмпературай, галаўнымі і мышачнымі болямі, галавакружэннем, млоснасцю, ванітамі, пачашчаным сэрцабіццём - падобны стан трымаецца 6-8 гадзін і заканчваецца рэзкім падзеннем тэмпературы (да 35-36$^0$С) і вялікім потавыдзяленнем. Паўтараюцца прыступы праз 1-2 дні. Малярыя небяспечная з-за магчымых ускладненняў: ацёк лёгкіх, ныркавая недастатковасць, каматозны стан, сударагі, неўралагічныя парушэнні. Дыягназ захворвання ставіцца толькі на падставе вынікаў лабараторнага даследавання крыві хворага на ліхаманку і гэтым жа даследаваннем пацвярджаецца выздараўленне яго пасля лячэння.

Прафілактыка малярыі складаецца з 2 накірункаў: папярэджанне заражэння і прафілактыка захворвання.

Папярэджанне заражэння – гэта абарона памяшканняў ад пранікнення камароў (засетканне вокнаў) і абарона ад іх укусаў (усталёўка прыложкавых марлевых палогаў, знішчэнне заляцеўшых камароў інсектыцыдным сродкамі; па-за памяшканнем – апрацоўка адкрытых участкаў цела адпужваючымі прэпаратамі - рэпелентамі).

Прафілактыка захворвання – гэта прыём па прызначэнні ўрача лекавых супрацьмалярыйных прэпаратаў, пачынаючы за тыдзень перад выездам у небяспечны па малярыі рэгіён, увесь перыяд знаходжання там і яшчэ 4-6 тыдняў пасля вяртання дадому.

На працягу 2 гадоў пасля вяртання з нядобранадзейнай па малярыі краіны пры кожным звароце ў амбулаторна-паліклінічныя арганізацыі з нагоды любога захворвання, што прывяло да павышэння тэмпературы, варта інфармаваць урача аб сваім знаходжанні за мяжой.

Памятаеце, што прафілактычных прышчэпак ад малярыі няма, а імунітэт у тых, хто перанёс малярыю, – недаўгавечны і магчыма паўторнае заражэнне.




Паштовая марка часоў СССР.

# Не пускайце ў хату незнаёмых людзей

**Аддзелам унутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама за 3 месяцы 2016 года праведзена пэўная работа па павышэнні асабістай і маёмаснай бяспекі пажылых грамадзян, па недапушчэнні здзяйснення ў дачыненні да іх правапарушэнняў і злачынстваў.**

■ **Аляксандр Гігола**, *начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

У мэтах зніжэння злачыннасці раённы аддзел унутраных спраў прадпрымае арганізацыйна-практычныя меры, якія ў пэўнай ступені ўплываюць на папярэджанне супрацьпраўных паводзінаў у адносінах да пажылых грамадзян.

На тэрыторыі Глыбоцкага раёна ўсяго пражывае 9269 грамадзян пажылога ўзросту (больш за 60 гадоў), з іх адзінокіх 1034, пажылых грамадзян, якія пражываюць адзінока, – 3121. Супрацоўнікамі РАУС выяўлена 23 асобы асацыяльных паводзін, якія пражываюць з пажылымі грамадзянамі; з імі праводзяцца прафілактычныя мерапрыемствы. Усяго ўчынена пяць злачынстваў (у 2015 годзе за аналагічны перыяд часу таксама пяць) у дачыненні да састарэлых грамадзян.

**Каб не стаць ахвярай, памятайце:**

■ калі выходзіце, зачыняйце дзверы на ўсе замкі, а таксама вокны і балкон; гэтыя дзеянні павінны стаць звычкай і для іншых членаў Вашай сям'і;

■ пазбягайце размоў на тэму свайго месцазнаходжання, асабліва ў прысутнасці чужых людзей і дзяцей; нагадвайце дзецям, што нельга распавядаць незнаёмым людзям пра тое, хто знаходзіцца дома, а таксама пра тое, дзе могуць захоўвацца ключы ад дома ці кватэры;

■ абсталюйце сваё жыллё рознымі даступнымі тэхнічнымі прыстасаваннямі абароны;

■ пры з'яўленні асоб цыганскай нацыянальнасці неадкладна паведамляйце ў РАУС, не ўпускайце іх у дом (кватэру), не здзяйсняйце з імі якія-небудзь здзелкі;

■ абсталюйце кватэру ахоўнай сігналізацыяй, усталюйце тэлефон у спальным пакоі;

■ пры з'яўленні незнаёмых грамадзян, якія ажыццяўляюць рэалізацыю тавараў або аказваюць паслугі, паведамляйце ў РАУС на тэлефон «102».



Самае галоўнае – не ўпускаць у хату незнаёмых людзей і не распіваць з імі спіртныя напоі.

У мэтах узмацнення абароны пажылых людзей ад супрацьпраўных замахаў, павышэння ўзроўню ўзаемадзеяння суб'ектаў прафілактыкі па задавальненні запытаў і патрэбаў названай катэгорыі грамадзян, з 23 па 30 красавіка гэтага года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзіцца спецыяльнае комплекснае мерапрыемства "Увага – узрост!".

## МНС інфармуе

**на 26.04.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**

Пажараў – 221;

Гібель людзей – 39, з іх дзяцей няма;

**Глыбоцкі раён:**

Пажараў – 7;

Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма

За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

